

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№7(105)

1 ліпеня 2013 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# У МУЗЕЯХ ЗАХОЎВАЕЦЦА НАША СПАДЧЫНА

## *Але ці здолеюць захавацца самі музеі?*

Алена ПАЛЯКОВА

***Стала вядома, што дзяржаўная ўстанова адукацыі «Інстытут беларускай культуры» разаслала ва ўсе раённыя і гарадскія ўпраўленні культуры лісты, у якіх просіць «правесці аналіз дзейнасці дзяржаўных музеяў з нізкім колькасным паказнікам па наведвальнасці і ўнесці прапановы па мэтазгоднасці далейшага існавання музеяў». Гэта азначае, што, магчыма, некаторым музеям можа пагражаць закрыццё.***



*Клімавіцкі краязнаўчы музей*

Чаму ўзнікла пытанне аб правядзенні такога маніторынгу? Знаходзіць сродкі на ўтрыманне ўстаноў культуры становіцца ўсё цяжэй. Вось і вырашылі для пачатку ўдакладніць і палічыць, якія з музеяў карыстаюцца зараз сапраўднай папулярнасцю. Колькасць наведвальнікаў самым непасрэдным чынам паўплывае на іх далейшы лёс. Верагодна, на аснове атрыманых вынікаў зробяць высновы, ці мэтазгодна падтрымліваць той ці іншы канкрэтны музей.

У раёнах сітуацыя з наведвальнасцю ўсім добра вядомая. Асноўны кантынгент раённых музеяў — школьнікі і навучэнцы. Яны пастаянныя ўдзельнікі большай часткі экскурсій, для іх арганізуюцца адмысловыя мерапрыемствы. Напрыклад, у Клімавіцкім краязнаўчым музеі для дзяцей праводзяцца лекцыі на краязнаўчую тэматыку, выстаўкі, музейныя заняткі, спецыяльныя гульнёвыя праграмы. Безумоўна, мэтанакіраваная дзейнасць дае свой плён. А вось астатняе насельніцтва горада можа завітаць у мясцовы музей толькі пры адной нагодзе, разам са сваімі гасцямі з іншых мясцін. Але гэта адбываецца амаль што выпадкова.

Галоўная праблема невялічкіх правінцыйных музеяў — адсутнасць унікальнасці захоўваемых экспанатаў. Зразумела, што самае лепшае і цікавае, што было ў іх сховішчах, даўно перададзена ў абласныя і рэспубліканскія ўстановы. Тлумачыцца гэта тым, што на месцах не здолеюць падрыхтаваць сапраўдныя ўмовы для захоўвання каштоўных рэчаў, старажытных артэфактаў і г. д. З аднаго боку, з такімі поглядамі нельга не пагадзіцца. Але адначасова разумееш, што ў выніку існуючай практыкі раённыя музеі застаюцца без экспанатаў, якія маглі б прыцягнуць да сябе цікаўнасць людзей. І ў рэшце рэшт павысіць тую ж самую наведвальнасць.

На сёння ў Магілёўскай вобласці існуе 25 музеяў. Агульны абласны фонд музейных прадметаў складаў на пачатак бягучага года каля 300 тысяч адзінак. Але такая вялікая колькасць не сведчыць аб багацці сховаў. Сапраўды ўнікальных экспанатаў значна менш, аб чым можна даведацца з афіцыйнай справаздачнасці. Вось лічбы пра колькасць музейных прадметаў Магілёўшчыны, зарэгістраваных у Дзяржаўным каталогу Музейнага фонду РБ у студзені 2013 г.

Усяго па рэгіёну зарэгістравана 11780 прадметаў, якія маюць гістарычную і культурную каштоўнасць. Найбольш іх у абласным краязнаўчым музеі імя Е.Р. Раманава (7395 прадметаў) і абласным мастацкім музеі імя П.В. Масленікава (1912 прадметаў). Адсюль бачна, што ў раёнах засталася нейкая жменька экспанатаў, якія лічацца каштоўнымі і аўтэнтычнымі. Вось толькі некалькі прыкладаў: Клімавіцкі краязнаўчы музей – 94 прадмета, Крычаўскі гісторыка-краязнаўчы музей – 25, Чэрыкаўскі гісторыка-краязнаўчы музей – 28. Лепей справы ў Бабруйску (881 прадмет), Касцюковічах (440), Клічаве (325) і Бялынічах (229). Горш у Хоцімску – усяго 2 прадмета.

Як бачым, становішча патрабуе паляпшэння. Таму пытанне, ці здолеюць музеі вырашыць праблему наведвальнасці, застаецца пакуль адчыненым. На мой погляд, адзін з пэўных адказаў на яго — гэта напаўненне музейных фондаў матэрыяламі, творамі, рэчамі з нашай агульнай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Каб людзі даведаліся пра гісторыю сваёй краіны, ганарыліся сваёй культурай і адчувалі сябе патрыётамі сваёй Радзімы.



# ЗАБЫТЫЯ І ЗАНЯДБАНЫЯ

## *У Магілёўскай вобласці зарастаюць без догляду яўрэйскія могілкі*

***У заселеных некалі пераважна яўрэямі паселішчах Магілёўскай вобласці без догляду занепадаюць яўрэйскія могілкі. Нешматлікія цяпер яўрэйскія грамады не ў стане як мае быць падтрымліваць на іх парадак. Мясцовыя яўрэі заяўляюць, што на просьбы дапамагчы ўлада адгукаецца не заўжды і з неахвотаю. Тым часам могілкі зарастаюць, дзе-нідзе на пахаванні скідаецца смецце, а ўнікальныя старыя помнікі разбураюцца. Інфармацыйная кампанія БелаПАН агучыла погляды жыхароў Усходняй Магілёўшчыны на згаданую праблему.***



### НЯМА КАМУ ДАГЛЯДАЦЬ

На яўрэйскіх могілках у Крычаве шмат старых надмагілляў вывернутыя з зямлі і паламаныя. Нямала магілаў зараслі хмызняком, некаторыя схаваліся ў густым бузоўніку. Заняпад асабліва відавочны на ўскрайку кладаў — на мяжы стромкага схілу рова. Тут на магілах звалена смецце.

Прыбіраць могілкі спрабуюць. Там, дзе яны падыходзяць да хат, трава выкашаная.

«Вы ж бачылі, што там трава выкашаная. Гэта я дабіўся праз райвыканкам. Столькі нерваў парваў. Было такое, што надмагільны камень вывернулі з зямлі і кінулі пасярод дарогі, і я тры дні званіў, пакуль не прыехалі працаўнікі і гэты камень не ўкапалі ў зямлю», — кажа крычавец Генадзь.

У Крычаве ад шматтысячнай некалі яўрэйскай грамады засталося паўсотні чалавек. Бальшыню магілаў — а некаторыя датуюцца канцом XIX стагоддзя — няма каму даглядаць. Жыхарка райцэнтра Галіна гаворыць, што дамагалася, каб раённая ўлада і камунальныя службы дапамагалі прыбіраць могілкі, але цяпер кінула гэты занятак:

«Я ўжо да кіраўніцтва "Камунальніка" не звяртаюся — стамілася туды хадзіць. Там змяніўся ўжо трэці ці чацвёрты дырэктар. Гэта яны павінны прыбіраць могілкі. Колькі ж можна язык аб зубы біць? Тыя, хто з'ехаў у Ізраіль, плацяць грошы некаторым людзям, і тыя прыбіраюць магілы. Але ёсць старыя пахаванні — ім невядома колькі гадоў і невядома, чые яны».

У прадпрыемстве "Камунальнік" заявілі, што рэгулярна прыбіраюць могілкі, але даць рады смеццю, якое скідаецца ў роў і на суседнія магілы, не заўжды могуць.

«Так, магчыма, некаторыя камяні, на якіх надпісы, і ўяўляюць сабой даволі вялікі гістарычны інтарэс, але яны ў тым стане, у якім ёсць. Мы рэгулярна наводзім парадак на могілках. Некалькі разоў намагаліся вычысціць роў, але людзям здаецца, што калі ёсць роў, то гэта прыродная звалка», — сцвярджае супрацоўнік "Камунальніка".

### ГЭТАК НЕ ПАВІННА БЫЦЬ

У райцэнтры Клімавічы засталося меней за 30 яўрэяў. Расказвае мясцовая жыхарка Рыта: «Ніхто могілкі нашы не даглядае, травы — мора, не прайсці. Прыязджалі людзі з Ізраіля, дык хадзілі ў райвыканкам скардзіліся. Я ж не магу, напрыклад, усе могілкі прыбраць. У мяне пяць магілак сваіх. Ну, магу яшчэ суседскія прыбраць. Хрысціянскія могілкі — іх жа прыбіраюць. Дык што, калі яўрэйскія, то яны непатрэбныя?»

У мясцовым прадпрыемстве "Камунальнік" словы спадарыні Маргарыты абвяргаюць. Заяўляюць, што на могілках парадак, паабяцалі агледзець іх яшчэ раз.

Днямі клімавіцкі журналіст Сяргей Аржанцаў наведаўся на яўрэйскія могілкі:

«Я хаджу па могілках — тут трава, і праўда, вялікая, кустоўе, нельга нават прайсці паміж магіламі. У асобных месцах купы смецця згорнутыя. Па баках некаторых могілак агароджы змятыя. З-за травы надгробныя камяні нельга ўбачыць — толькі верх відаць. Гэтак не павінна быць».

### БЕЗ ПАМЯЦІ НЯМА БУДУЧЫНІ

У некалі спрэс яўрэйскім Хоцімску яўрэяў засталася жменька. Яўрэйскія могілкі агароджаныя старым плотам — і гэта ўсё, што зроблена для іх, кажа жыхарка райцэнтра спадарыня Любоў. «Калі нехта ёсць са сваякоў, то даглядаюць, а так ніхто не даглядае. Сваякоў тут у Хоцімску дужа мала, двое ці трое разам са мной. Помнікаў старых было вельмі шмат, але іх бралі на фундаменты дамоў. І цяпер іх ёсць троху — паўкруглай такой формы. У нас яшчэ ёсць помнік ахвярам гета — тут немцы расстралялі больш за 700 чалавек. Іншым разам там вучні нешта прыбіраюць, калі трэба, а так і там усё зарастае», — паведаміла яна.

Староста магілёўскай сінагогі Сымон Глазштэйн прызнае, што пра свае могілкі павінны найперш дбаць самі яўрэі, але іх у Беларусі ўсё меней. Таму захаванасць не толькі могілак, але і усёй яўрэйскай спадчыны — абавязак беларускага грамадства і дзяржавы:

«Не толькі могілкі, а і тое, што засталося ад будынкаў сінагог ды малітоўных дамоў — асабліва ў тых месцах, дзе габрэі зніклі не таму, што з'ехалі, а таму, што іх забівалі ў гады вайны. Усё гэта клопат і боль дзяржавы і грамадства. Ратаваць гэта трэба, бо без памяці будучыня будзе пустой і бессэнсоўнай».





# ПОДПИСИ СОБРАНЫ

## *В Павловичах надеются решить проблему без депутата*

**Александр ВЛАД**




***По сведениям, появившимся на сайте zapraudu.info, жители деревни Павловичи Климовичского района собрали подписи за ремонт дороги и установку крытого павильона на автобусной остановке. В настоящее время два коллективных обращения переданы в Климовичский райисполком. Теперь люди ожидают ответной реакции местных властей.***

18 июня активист кампании «Говори правду» Александр Балобин отнёс в Климовичский райисполком обращение от жителей деревни Павловичи. В обращении говорилось о необходимости произвести капитальный ремонт автодороги в деревне. По словам Александра Балобина, несколько месяцев назад он «уже обращался с этой проблемой к депутату Палаты представителей Владимиру Кравцову, тот пообещал оказать необходимую помощь, но в итоге проблема так и не была решена». Поэтому было принято решение собрать подписи и обратиться в райисполком. Там обращение было зарегистрировано под номером № 99-3-кол. Под ним подписалось 32 человека.

20 июня в райисполком было передано ещё одно коллективное обращение, касающееся оборудования павильона на автобусной остановке в Павловичах. Это обращение подписали 30 жителей деревни, оно зарегистрировано под № 100-кол-3.

Отметим, что граждане, поставившие свои подписи, рассчитывают на благоприятное отношение к их просьбе. С помощью депутата или без его участия, но социально важную проблему необходимо решить.

Кстати: Кравцов Владимир Васильевич — представляет в Палате представителей население Кричевского избирательного округа №83 (Климовичский, Кричевский и Хотимский районы). Контактные телефоны в избирательном округе: 8 (02241) 5 17 49, 8 (02241) 5 16 54, 8 (02244) 5 15 52. Для желающих связаться с депутатом по интернету предлагается следующий электронный адрес: kravtsov@house.gov.by

## ПРАВОВАЯ ПОДСКАЗКА:

Будет полезно знать, что в соответствии с законодательством коллективные обращения в государственные органы по вопросам, входящим в их компетенцию, могут рассматриваться непосредственно на месте проживания граждан. Для этого обращение должно быть подписано 30 и более гражданами. В этом случае обращение подлежит рассмотрению с выездом на место нахождения объекта, являющегося предметом обращения.

## *НОВОСТИ РЕГИОНА*

### ПЕРЕСТРАХОВАЛИСЬ

***Как передаёт БЕЛТА, госконтроль проверил страховые организации страны по ряду направлений их деятельности. Было отмечено, что в аграрной сфере имеются факты неправильного исчисления размера страхового взноса, который определялся исходя из средней урожайности, полученной конкретным хозяйством, а не из среднерайонного показателя урожайности культур. Из-за такого расчёта по договорам страхования, заключенным в 2012 году, представительством «Белгосстраха» по Климовичскому району было излишне предъявлено к оплате из бюджета около 70 млн. руб.***

### СОЮЗНЫЙ СТАТУС

***Стало известно, что управление культуры облисполкома ведёт переговоры, чтобы «Золотая пчёлка» смогла получить статус фестиваля Союзного государства. На первый взгляд, в этом нет необходимости, ведь проводимый в Климовичах фестиваль давно признан международным, что более солидно. Но, похоже, с помощью «союзного» статуса хотят улучшить финансирование детского праздника, передав часть расходов на его проведение России.***



# «КУДА НИ КИНЬ — НАДО ВСЁ БЕРЕЧЬ»

Александр ВЛАД

***Хотя относительно недавно мы объявили о завершении цикла «Как нас учат бережливости», это не означало, что тема Года бережливости исчезнет со страниц «Клімавіцкай Інфа-Панарамы». Информационных поводов к её возобновлению более чем достаточно. Один из них — это районный План мероприятий по проведению в 2013 году Года бережливости.***

Напомним, что называя и перечисляя различные недостатки и упущения в сфере экономии и энергосбережения, мы задавали вопрос и тут же отвечали на него: «Может, исправить существующее положение как раз и должен помочь Год бережливости? Ведь только в республиканском плане мероприятий по его проведению аж целых 25 пунктов. А сколько всего запланировано на областных и районных уровнях, просто уму непостижимо. Но тут мы возвращаемся к той самой пресловутой «бумажной» работе…».

Действительно, республиканский план мероприятий по проведению в 2013 году Года бережливости содержит 25 пунктов. Некоторые из них достойны восхищения. Например, пункт 7: «Внедрение прогрессивных ресурсосберегающих технологий в животноводстве, обеспечивающих снижение расхода кормов на единицу продукции на 3 процента». Похоже, в данном случае животноводство смешали с математикой. Рассуждая логично, если это можно запланировать, то давайте тогда каждый год снижать расход кормов на 3 процента.

Более реалистичен пункт 8: «Снижение затрат на оказание жилищно-коммунальных услуг населению не менее чем на 10 процентов в сопоставимых условиях по сравнению с 2012 годом». Но реалистичен не в смысле его выполнения, а — применения. Очевидно, что снижение затрат на оказание жилищно-коммунальных услуг населению будут осуществлять за счёт повышения стоимости ЖКУ для населения. Из той же оперы пункт 10: «Совершенствование системы нормирования труда, внедрение гибких форм занятости и оплаты труда». В Год бережливости особенно будут стараться «сберечь» расходы на наши с вами зарплаты.

Что же касается районного Плана мероприятий, то климовичские чиновники не сильно утруждали себя его составлением. И хотя в нём тоже два десятка пунктов (всего 22 пункта), их практическая значимость весьма сомнительна. Например, самый первый пункт: «Рассмотрение на заседаниях исполкомов вопросов организации контроля за рациональным использованием топливно-энергетических и материальных ресурсов». О том же гласит пункт 3: «Обеспечение проведения заседаний постоянно действующих комиссий по контролю за экономией и рациональным использованием топливно-энергетических и материальных ресурсов и обеспечение контроля за их работой в подведомственных организациях».




Вызывает недоумение пункт 2: «Обеспечение полного и надёжного снабжения населения и народнохозяйственного комплекса района энергоресурсами, недопущение кризисных ситуаций в энергообеспечении». Выходит, если бы не Год бережливости, так обеспечивать полное и надёжное снабжение энергоресурсами было бы не обязательно? Вот ещё пара бюрократических изысканий. Пункт 14: «Доведение на очередной календарный год до подчиненных организаций, хозяйственных обществ установленного задания по экономии ресурсов». А согласно пункту 19 районный отдел образования обязали пропагандировать Год бережливости в детсадах: «Оснащение средствами воспитания, обучения, учебно-наглядными пособиями, играми и игровым оборудованием, предназначенными для изучения вопросов экономии и бережливости в дошкольных учреждениях». Не забыли и про взрослое население Климовщины, это заключительный пункт 22: «Проведение широкомасштабной разъяснительной работы среди населения о необходимости повсеместной экономии топливно-энергетических и материальных ресурсов, установки для этого в жилых помещениях индивидуальных приборов учёта расхода воды и природного газа».

Советуем проводить широкомасштабную разъяснительную работу, опираясь на высказывания Лукашенко. Он, рассуждая о значимости и необходимости проведения Года бережливости, откровенно сказал: «Куда ни кинь — надо всё беречь…По каждому направлению — везде вопросы бережливости».

Одним словом, дохозяйствовались…

## *НОВОСТИ РЕГИОНА*

### ОСТОРОЖНО — ЛИСЫ!

С начала года количество заболеваний животных бешенством на Могилёвщине снизилось. Таких случаев по сравнению с аналогичным периодом 2012-го зафиксировано почти в два раза меньше. Тем не менее, необходимо иметь в виду, что ветслужбы зарегистрировали 27 эпизодов этого опасного заболевания. По-прежнему основным носителем бешенства является лисица (17 эпизодов). В Климовичском районе за январь-май отмечено 2 случая заболевания лис и 1 – енотовидной собаки.

### ЧЕРНОБЫЛЬСКИЕ ШКОЛЫ

В агрогородке Тимоново Климовичского района встретились выпускники школ из отселенных деревень. Это деревни, которые перестали существовать после аварии на Чернобыльской АЭС. Первыми стали собираться бывшие выпускники школы из деревни Савиничи. Они встречаются уже шестой год, а в этот раз к ним присоединились жители из населённых пунктов Костюковичского и Чериковского районов. Всего на встречу приехали более 60 человек, которые хотят, чтобы мероприятие проводилось регулярно.





# СТРОИТЕЛЬНЫЕ МАСТЕРКИ РЖАВЕЮТ БЕЗ РАБОТЫ

Данила МЕСТИЧ

***Уже несколько лет в Беларуси постоянно снижаются масштабы жилищного строительства. После президентских выборов-2010 белорусская экономика подверглась серьёзному затяжному кризису, что не могло не отразиться на положении строительной отрасли. В итоге объёмы возведения жилья резко упали, десятки тысяч опытных строителей покинули пределы страны, а государство лихорадочно режет списки очередников. Сегодня никто не знает, смогут ли они когда-нибудь вселиться в собственные новые квартиры.***

Статистика наглядно показывает, что в 2011 году было сдано в эксплуатацию нового жилья на 17,3% меньше, чем в 2010-м, а в 2012 году — меньше на 18,2%, чем в 2011-м. Ситуация очевидна и не нуждается в комментариях, но ведь и статистическими данными можно оперировать по своему усмотрению. Например, в «Могилёвских ведомостях» опубликовали отчёт с заседания облисполкома, посвящённого результатам работы области в прошлом году. В выступлении председателя облисполкома Петра Рудника было сказано, что в 2012 году на Могилёвщине ввели в эксплуатацию 381,4 тыс. кв. метров общей площади жилья, что составляет 100,4% к заданию года. Всё правильно, задание выполнено, не было лишь упомянуто, что это составляет 76,3% к уровню 2011 года. Насколько снизились объёмы жилищного строительства, можно судить по следующему сопоставлению. В 2011 году в области организациями всех форм собственности построено 6904 новых квартир, а в 2012 году — 4837. На 2000 квартир меньше, а это — 2000 семей, оставшихся без своего жилья.

В разрезе конкретных регионов масштабы снижения строительства ещё более убедительны. Удивляться тут нечему, ведь в строительной сфере Могилёвщины наблюдается постоянный отток кадров. Минувшим летом телерадиокомпания «Могилёв» посвятила проблеме специальный новостной сюжет. Было озвучено, что за последние полтора года более 7 тысяч работников покинули строительные площадки области. С учётом того, что сегодня в районных СМУ и ПМК трудовые коллективы составляют по несколько сотен человек, это огромная цифра.

Как это выглядит в реальной действительности, продемонстрируем на примере Климовичского района. Ранее Климовичский район переживал настоящий строительный бум. Если в 2005 году в районе было построено 6,4 тыс. кв.м. жилых домов, то в следующие пять лет гораздо больше. Настоящая пятилетка успеха и процветания: в 2006 году – 10,8 тыс. кв.м., в 2007 – 10,5, в 2008 – 14,9, в 2009 – 15,2, в 2010 – 20,2.

Ожидалось, что после переизбрания Лукашенко эта распрекрасная жизнь продолжится. Во всяком случае, в Климовичах рассчитывали построить в 2011 году очередные 20 тысяч метров жилплощади. Но грянули кризис и девальвация, в результате в 2011 г. было введено в эксплуатацию 15.387 кв. м. жилья. Ну а в следующем 2012 году в Климовичах уже не претендовали на десятки тысяч метров, а запланировали скромные 5,8 тыс. м. Было введено в эксплуатацию 6.175 метров общей площади жилых домов. Таким образом, можно говорить о возвращении на уровень 2005 года.

На 2013 год району доведено задание по вводу в эксплуатацию уже 10 тыс. метров, только вот выполнимы ли такие показатели? В былые времена климовичские строители на равных конкурировали с лучшими передовиками отрасли. Например, Климовичская ПМК-256, как правило, входила в тройку областных победителей, уступая лишь коллегам из Круглого и Белынич. А теперь климовчане борются за место в первой десятке, с каждым годом опускаясь в итоговой таблице. В 2011 году по строительству жилья Климовичский район находился на 6-м месте среди районов области, а в 2012 г. — уже на 9-м месте. Впрочем, подобные тенденции присущи большинству регионов Могилёвщины. К примеру, Кричевский район занимал в 2011 году 7-е место, а в 2012 г. — 11-е. Добавим, что среди 21 района области в 15-ти произошло снижение объёмов строительства.

Остаётся напомнить, что идя на президентские выборы, Лукашенко обещал, что после его победы в стране будут строить 10 миллионов квадратных метров жилья в год. Сегодня же не строится и половины. Но что с того власти и её идеологам? Они уже готовят новые обещания к следующим выборам.

| Место района в 2012 г. | РАЙОН | Введено в 2012 году жилой площади, кв. м. | Для сравнения — в 2011 году |
|---|---|---|---|
| 1 | Могилёвский район | 38.066 | 38.511 |
| 2 | Горецкий район | 33.146 | 29.101 |
| 3 | Осиповичский район | 32.537 | 23.576 |
| 4 | Бобруйский район | 11.895 | 11.146 |
| 5 | Костюковичский район | 10.248 | 5.735 |
| 6 | Шкловский район | 9.727 | 18.391 |
| 7 | Быховский район | 6.414 | 7.525 |
| 8 | Кличевский район | 6.276 | 9.661 |
| 9 | Климовичский район | 6.175 | 15.387 |
| 10 | Чериковский район | 5.915 | 7.858 |
| 11 | Кричевский район | 5.801 | 14.892 |
| 12 | Глусский район | 4.443 | 11.544 |
| 13 | Славгородский район | 3.965 | 2.137 |
| 14 | Кировский район | 3.301 | 9.641 |
| 15 | Белыничский район | 3.210 | 11.076 |
| 16 | Чауский район | 3.148 | 17.039 |
| 17 | Круглянский район | 2.624 | 6.143 |
| 18 | Мстиславский район | 2.573 | 13.809 |
| 19 | Хотимский район | 2.396 | 4.069 |
| 20 | Краснопольский район | 2.301 | 3.888 |
| 21 | Дрибинский район | 2.003 | 1.523 |



# КОМСОМОЛ СТРОИЛ ДНЕПРОГЭС, А БРСМ — ФЕРМЫ

Тимур НЕЗВАНОВ

***В этом году в области намерены ввести в строй 125 новых МТФ (молочно-товарных ферм). Чтобы успеть вложиться в график, к строительству активно привлекают дополнительную рабочую силу. На возведении МТФ будет работать более 4 тысяч студентов, что почти в два раза больше, чем в прошлом году. И это только в одной Могилёвской области! Почему же тысячи молодых людей надели на себя спецовки и строительные каски?***




Согласно планам Правительства возведение дополнительных МТФ поможет увеличить экспорт сельхозпродукции за пределы Беларуси. А это, в свою очередь, даст так необходимые бюджету валютные поступления. Определённый смысл в подобных расчётах, конечно, имеется. Вместе с тем специалисты отмечают, что в масштабной программе модернизации молочного животноводства полным-полно неувязок. Например, совершенно непонятно, откуда возьмётся столько коров, чтобы заполнить сотни новых ферм по всей стране. Но эта проблема ещё не самая насущная. Ведь фермы вначале необходимо всё-таки построить.

А вот с этим уже несколько лет одни сплошные затруднения. То средств не хватает, то материалов, то рабочих рук. Удивляться тут нечему, ведь в строительной сфере наблюдается постоянный отток кадров. За последние пару лет только на одной Могилёвщине более 7 тысяч работников покинули строительные объекты области. Вполне закономерно, что к возведению МТФ стали с каждым годом привлекать всё больше учащейся молодёжи.

В советское время комсомольцы сооружали Днепрогэс и Магнитку, ездили на целину и БАМ. Нынешний аналог комсомола БРСМ зовёт молодёжь на фермы. Былые воодушевляющие лозунги уже не звучат, ведь мотивация коренным образом изменилась. Ясно как белый день, что тысячи студентов проводят лето на стройплощадках главным образом потому, что государство не в состоянии привлечь для этого квалифицированных рабочих. В итоге на фермы посылают студенческие отряды.

Впрочем, и это делается так, как у нас принято. Во-первых, с очевидным неумением или нежеланием организовать всё на должном уровне. Прошлогодним летом облисполком рассматривал опыт применения студотрядов, привлечённых к реконструкции МТФ. Выяснилось, что даже к середине июля 22 отряда так и не приступили к выполнению бетонных работ, порученных им. Для этого просто не было создано соответствующих условий. Студотрядовцам поручали косить траву и тому подобные занятия.

Во-вторых, помощь студентов откровенно воспринимается как бесплатный труд. Например, недавно сообщалось, что за май текущего года средняя зарплата студотрядовцев Могилёвщины составила 3,5 млн. руб. Но насколько объективно названные цифры отражают реальную ситуацию с оплатой работы студентов? Обратимся к официальной информации, из которой можно узнать, что активнее всех в области сработали по организации студотрядов Мстиславский, Глусский, Климовичский, Бобруйский и некоторые другие районы. Давайте посмотрим, какую планируемую зарплату (по состоянию на июнь 2013 года) предлагали студентам в этих регионах.

Фаворитами по оплате являются Бобруйск и Мстиславль. За выполнение земляных и бетонных работ при строительстве МТФ там обещается от 3 млн. руб. На фоне других районов это выглядит солидно, ведь, к примеру, Глусский РК БРСМ за благоустройство территории МТФ предлагает от 500 до 600 тысяч. В Климовичском районе молодёжь завлекают на стройки зарплатой от 2 миллионов. Правда, сразу уточняется, что из заработков будут высчитывать 50% стоимости питания. Так что климовичским студентам, захотевшим подработать, вряд ли светят даже два миллиона. Только волнует ли это государство, нуждающееся в даровой рабочей силе?

## ОБЕЩАННОГО 12 ЛЕТ ЖДУТ

Анастасия ЗЕЛЕНКОВА, Ян БУЯН, gazetaby.com

4 июня Александр Лукашенко провёл совещание по вопросам жилищного строительства.

На этом заседании прозвучало много интересного. По словам главы Беларуси, «отрасль очень коррумпирована, а проектировщики «зажрались донельзя». Почему такое стало возможным на 19-м году правления Лукашенко, последний не пояснил.

Отдельного упоминания заслуживает следующее высказывание руководителя Беларуси: «Моё требование остаётся прежним и неизменным: цена квадратного метра для нуждающихся должна быть на уровне не выше средней зарплаты по стране. Если средняя зарплата 300 долларов, то и цена квадратного метра должна быть такой, если средняя зарплата 500 долларов — квадратный метр для нуждающихся должен стоить не выше 500 долларов, но никак не 1,5-2 тысячи долларов».

Дело в том, что вопрос стоимости жилья для белорусов Лукашенко подымал ещё в своей предвыборной программе образца 2001 года. Там значилось, что уже к 2005-му цена строящегося квадратного метра не должна превышать размер одной среднемесячной заработной платы по стране.

Но вот незадача: уже к 2004 году это соотношение оказалось почти вдвое больше запланированного. Планы пришлось откорректировать. Вернее, попросту отложить еще на пятилетку.

И вот в Программе социально-экономического развития Республики Беларусь на 2006-2010 годы, принятой Всебелорусским народным собранием и утвержденной Александром Лукашенко, вновь заявлялось, что стоимость одного квадратного метра должна составить 0,9-1 размера среднемесячной зарплаты. Правда, уже к 2010 году.

Наверное, излишним будет говорить, что и на этот раз обещание Александра Лукашенко народу оказалось пустым.

И вот 12 лет спустя «сказка про белого бычка» зазвучала вновь. При том, что ныне средняя цена квадратного метра жилья в 2 с лишним раза превышает среднюю зарплату по стране.





# КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА СУПРАЦЬ ДОМА МІЛАСЭРНАСЦІ

## *На арганізатара прытулку для бяздомных завялі крыміналку за «незарэгістраванае грамадскае аб'яднанне»*

Кірыла ХІЛЬКО, Наша Ніва

***Такога наўмысна не прыдумаеш. У вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна мясцовы вернік Аляксей Шчадроў адкрыў дом міласэрнасці для «пакінутых і абяздоленых». Аднак супраць яго распачалі крымінальную справу па артыкуле 193.1 КК «Незаконныя арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі або фонду альбо ўдзел у іх дзейнасці».***



Артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу, арышту тэрмінам да шасці месяцаў ці пазбаўленнея волі на тэрмін да двух гадоў.

Сам Шчадроў кажа, што ён проста дапамагае людзям, да якіх няма справы дзяржаве:

«Мы адкрылі першы дом міласэрнасці 1 снежня 2011 года. Затым для патрэбаў дома міласэрнасці мы набылі яшчэ два будынкі ў Аляксандраўцы — нам іх саступілі танна, за 500 ды 700 даляраў».

Ад таго часу ў доме міласэрнасці пабывала 97 чалавек.

Паводле словаў Шчадрова, сюды прыходзяць не толькі бяздомныя. Праходзяць рэабілітацыю і тыя, хто нядаўна вызваліўся з турмаў. Прыязджаюць нават людзі, у якіх узніклі складанасці ў сям'і... Звычайна людзі праводзяць у доме міласэрнасці некалькі месяцаў, а потым хтосьці знаходзіць працу, хтосьці вяртаецца ў сям'ю. Ёсць і тыя, хто, перазімаваўшы, вяртаецца да ранейшага ладу жыцця.

«Была, напрыклад, жанчына з дзіцём, — расказвае спадар Аляксей. — Яна грукалася ў манастыры, але ёй адмаўлялі ў дапамозе. Прыйшла ў дом міласэрнасці — мы яе накармілі, дапамаглі з адзеннем. Яна сказала «дзякуй» і пайшла далей. Цяпер у нас жыве чалавек, які прыехаў з Ваўкавыскага рэабілітацыйнага цэнтра — там ён знаходзіўся пасля вызвалення з турмы. Ён кажа, што з'ехаў адтуль, бо там рэжым, што ў той турме. А з Аляксандраўкі з'язджаць не хоча — падабаецца яму тут».

Шчадроў кажа, што людзі праходзяць рэабілітацыю з дапамогай працы і малітвы. У дома міласэрнасці ёсць свая гаспадарка: гароды, куры, козы, свінні. Дапамагаюць дому міласэрнасці вернікі розных канфесій.

«З рамонтам дамоў дапамог мясцовы фермер. Ён і прадукты прывозіць часта», — кажа Шчадроў.

«Для малітваў мы зладзілі невялікую капліцу імя маці Тэрэзы. У ёй службу праводзіў гродзенскі ксёндз Аляксандр Шэмет. І я бачыў, як людзі мяняюцца ў лепшы бок, як яны адкрываюцца Богу».

Аднак менавіта рэлігійны кампанент дзейнасці дома міласэрнасці, як сцвярджае Шчадроў, стаў дамінантай у справе супраць яго.

«Чыноўнікі ведалі пра дом міласэрнасці. Упершыню прыехалі 10 снежня 2011 года. Там былі і са шчучынскай міліцыі, і з сельсавета. Казалі, што трэба рэгістраваць аб'яднанне. Але я адказаў, што не буду з імі сварыцца, а буду далей маліцца Богу ды дапамагаць людзям.

Але праз нейкі час, ужо пасля стварэння капліцы, адзін з жыхароў дома міласэрнасці расказаў міліцыі, што ў прытулку «моляцца».

Тады ўжо прыехалі людзі з КДБ, прыехаў пракурор, Ігар Папоў з аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Гарадзенскага аблвыканкама.

Тады канфіскавалі ўсю нашу літаратуру, у тым ліку Бібліі. Вазілі іх на экспертызу ў Гродна, затым у Мінск. Нічога нелегальнага не знайшлі, аднак па мясцовым тэлебачанні і радыё паказалі, нібыта ў вёсцы Аляксандраўка выкрылі і разагналі дэструктыўную секту.

Праз гэту сітуацыю мы страцілі нашага святара. Папоў мае на ксяндза Аляксандра Шэмета зуб, бо той у 2006 годзе ў Гродна зладзіў галадоўку пратэсту — улады не дазвалялі пабудаваць касцёл. Таму Папоў пайшоў да біскупа, і біскуп у лютым гэтага года забараніў Шэмету праводзіць у нас службы. Цяпер біскуп кажа, што дазволіць святарам у нас ладзіць набажэнствы, толькі калі афіцыйна зарэгіструем рэлігійную суполку. Таксама сказалі нам да таго часу капліцу пературарыць ізноў у спальны пакой», — кажа Шчадроў.

Пакуль крымінальная справа знаходзіцца ў распрацоўцы, дзейнасць дому міласэрнасці ў Аляксандраўцы не спыняецца, а Аляксей Шчадроў кажа, што будзе спрабаваць афіцыйна зарэгістраваць дабрачынную арганізацыю.

«Нас падтрымліваюць людзі, падтрымлівае і Касцёл. Нунцый Гуджэроці цёпла выказваўся пра дом міласэрнасці ў Аляксандраўцы. Ёсць чалавек, які ўзяўся дапамагчы са зборам дакументаў і працэдурамі, бо я далёкі ад усяго гэтага. Мне прасцей падабраць абяздоленага, абмыць яго, накарміць. Трэба дапамагаць такім людзям, бо дзяржава імі не займаецца».

Выканаўца абавязкаў старшыні аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Скрабко адмовіўся каментаваць сітуацыю вакол дома міласэрнасці ў Аляксандраўцы. «Толькі рашэнне суда канчаткова вызначыць, чым насамрэч з'яўляецца гэты прытулак. Да гэтага моманту рана нешта заяўляць», — паведаміў ён.

У Следчым камітэце справу Шчадрова таксама не каментуюць.

# КАЛІ НАД ХАТАЮ БУСЛЯНКА…

Сяржук АРЖАНЦАЎ

Раней беларускія вёскі было немагчыма ўявіць без буслоў. Там амаль на кожным хляве ці на хаце можна было пабачыць буслянку — буслава гняздо, дзе крылатая сям'я гадуе маленькіх птушанят. Менавіта буслянка лічылася сімвалам жыцця ў вёсцы. Як пісаў Пімен Панчанка:

***Хлусня, што пад капустаю знаходзяць***
***Малых,***
***І ты забудзь пра гэты слых.***
***Нам,***
***Каб жыла сям'я у добрай згодзе,***
***Дзяцей прыносяць белыя буслы.***
***Няма радзімы без бацькоўскай хаты;***
***Буслiны клёкат — гэта родны дом;***
***Ты будзеш жыць шчасліва і багата,***
***Калі над хатай — буслава гняздо.***

Сёння Беларусь займае па разводах 2-е месца ў свеце, а нараджальнасць у краіне катастрафічна зменшылася. У такой сітуацыі наўрад ці здолеюць дапамагчы нам славутыя буслы, якія ўжо не вяртаюцца ў свае гнёзды. Яны прыляцяць толькі тады, калі беларусы абароняць права на ўласную будучыню.



# СТРОИТЕЛЬСТВО МИНСКОГО ГОЛЬФ-КЛУБА ОБОШЛОСЬ В 18 МИЛЛИОНОВ ДОЛЛАРОВ

***Недалеко от столицы, в коттеджном поселке «Гринвич», открылся первый белорусский гольф-клуб «Минск». Там побывали корреспонденты Goals.by.***

Гольф придумали шотландские пастухи. Они пасли овец и от скуки стали закатывать камни в норки сусликов. Но сейчас эта игра стала дорогим удовольствием. Строительство гольф-клуба под Минском обошлось в 18 миллионов долларов.

— Но мы ещё не закончили тратить:), — раскрывает финансовые аспекты директор клуба Андрей Никоненок. — Заложен большой бюджет на строительство академии, которая уже возводится и планируется к открытию в августе, и здания клубного дома.

За полем сейчас следит англичанин, у которого в подчинении команда из белорусов. В прошлом году для надлежащего ухода за газоном купили техники на 200 тысяч долларов. В этом году потратили ещё 600 тысяч. В год содержание поля обходится примерно в 1,5 миллиона долларов.

Самое время ответить на вопрос: откуда такие деньги? По словам Андрея Никоненка, в строительство гольф-клуба вложился холдинг украинского бизнесмена Николая Лагуна, который владеет «Дельта-банком». Расценки на услуги заведения — среднеевропейские. Шесть уроков для новичка стоят 240 долларов, индивидуальные занятия с тренером от 60 до 360 у.е. Чтобы сдать экзамен, нужно раскошелиться на 60 долларов. Игра на маленьком поле (9 лунок) стоит до 30 долларов, на большом (18 лунок) — до 70-ти. Некоторые самостоятельные занятия почти бесплатны: раскошелиться придётся только за шарики.





КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*